# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Субота, 14 мая 1994 года

№ 49 (10749)

Цана 100 руб.


ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ
АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

## ДЗВЕ «РЫСІ» — І ТЫ НЕ «ЗАЯЦ»

Мінскім аблвыканкомам устаноўлены тарыфы за перавозку пасажыраў гарадскім аўтатранспартам на тэрыторыі вобласці. Зараз за адну паездку ў аўтобусе бярэцца плата ў памеры 200 рублёў. Праязны білет для грамадзян абыходзіцца ў 10.600, студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў і навучэнцаў школ, ПТВ — адпаведна ў 4.600 і 2.600 рублёў.

Паводле звестак БелаПАНа, увядзенне новага тарыфу дазволіць акцыянернаму таварыству «Мінскаблаўтатранс» штомесяц праводзіць скарачэнне датацыі па данаму віду перавозак у памеры 250 мільёнаў рублёў, што забяспечыць нармальную працу аб"яднання на працягу пяці месяцаў з улікам прадугледжанай у Дзяржбюджэце датацыі на 1994 год у суме 7 мільярдаў рублёў.

*БелаПАН.*

## КЛІЧА РОДНАЯ СТАРОНКА

Распад былога СССР, міжнацыянальныя канфлікты на паўднёвых абшарах СНД, цяжкае эканамічнае становішча ў краінах блізкага замежжа падштурхнулі многіх беларусаў, якія жылі там, да вяртання на радзіму. Так, калі ў першым квартале мінулага года ў Слуцку было прапісана такіх «перабежчыкаў» 1.416 чалавек, то сёлета за такі ж перыяд — 2.014. Вяртаюцца пераважна сем'ямі — да блізкіх і далёкіх родзічаў, асядаюць у горадзе і вёсцы. Едуць з Арменіі, Азербайджана, Малдавіі, а ў апошні час — і з Украіны, дзе глыбокі крызіс. Пытанне аб прапісцы прыезджых вырашаецца ў індывідуальным парадку, бо ў ліку «перабежчыкаў» ёсць і небеларусы. Усё часцей заявы аб прапісцы падаюць людзі, якія вярнуліся з Ізраіля: першая радзіма, Беларусь, для іх даражэйшая за зямлю запаветную.

*Міхась ТЫЧЫНА.*

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ «КРОЧЫЦЬ»?

З 13,5 мільёна жыхароў Беларусі права на атрыманне імянных прыватызацыйных чэкаў /ІПЧ «Маёмасць»/ маюць больш як 8 мільёнаў чалавек. Аб гэтым паведамілі карэспандэнту Белінфарма спецыялісты аддзела грамадскіх сувязей і маніторынгу Міндзяржмаёмасці. За перыяд, на працягу якога па рэспубліцы «крочыць» прыватызацыя, гэта значыць за красавік, у камісіях, што займаюцца складаннем спісаў грамадзян і дзеючых пры выканкомах сельскіх, пасялковых, гарадскіх і раённых Саветаў дэпутатаў, а таксама ў эксплуатацыйна-жыллёвых службах па месцы пражывання, зарэгістравана больш як 700 тысяч «шчаслівчыкаў». Кожнаму з іх у сярэднім налічана па 100 ІПЧ.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ЦВІТУЦЬ САДЫ, АЛЕ ЦЯПЛЕЕ

— Сезон дрыжыкаў заканчваецца. Хутка прыйдзе цёплае надвор"е, — гаворыць галоўны сіноптык Гідраметцэнтра Тамара Рыгораўна Цярэшчанка. — Пакуль што халодны антыцыклон у цэнтральных раёнах Расіі стрымлівае паступленне з поўдня цёплых паветраных мас. Аднак з 15 мая антыцыклон пойдзе на ўсход. Спачатку цёплае надвор"е /19—24 градусы/ усталюецца на паўднёвым захадзе, а з 16 мая распаўсюдзіцца па ўсёй тэрыторыі рэспублікі.

Цяпер нічога надзвычайнага ў прыродзе не адбываецца. Заўсёды, калі цвітуць сады, рэзка халадае. Не была выключэннем і сёлетняя вясна.

*Ірына АНДРЭЕВА.*

## ХТО ЗОЙМЕ «ЭЛЕКТРЫЧНЫ СТУЛ»?

Аб канкрэтнай праграме работы чарговага з"езда Саюза моладзі Беларусі, які адкрыецца 4 чэрвеня ў Мінску, гаварыць яшчэ рана. Але што яго дэлегатам прыйдзецца вырашаць пытанне аб выбары новага лідэра гэтай грамадскай арганізацыі, можна сказаць з поўнай упэўненасцю ўжо зараз.

Цяперашні першы сакратар СМБ Аляксандр Фядута, які рызыкнуў два з палавінай гады таму назад заняць гэты, як ён сам тады сказаў, «электрычны стул», прыняў катэгарычнае рашэнне вызваліць яго для іншага. Прычыну гэтага важак моладзі не ўтойвае. «У сувязі з занятай мною пазіцыяй у цяперашняй кампаніі па выбарах Прэзідэнта рэспублікі ва ўладных структурах я стаў персонай нон грата, — паведаміў ён карэспандэнту Белінфарма. — Не хачу, каб з-за мяне апынулася пад ударам уся арганізацыя».

Ці ацэняць па заслугах такі высакародны ўчынак свайго лідэра радавыя члены Саюза моладзі, будзе ясна на з"ездзе. І хоць, як кажуць, незаменных у нас няма, знайсці раўнацэнную замену Аляксандру Фядуту будзе, бадай, няпроста. Лідэраў не выбіраюць, імі становяцца.

*Віктар КУКЛОЎ, БЕЛІНФАРМ. Мінск.*

■ У выканкоме абласнога Савета

# КРЫЗІС СЛУЖБЫ БЫТУ

**З такой цяжкасцю створаная сістэма бытавога абслугоўвання насельніцтва сёння ў глыбокім крызісе. Што зрабіць па стабілізацыі яе работы? Аб гэтым ішла размова на пасяджэнні выканкома абласнога Савета.**

Адзначалася, што абласным упраўленнем бытавога абслугоўвання насельніцтва, прадпрыемствамі службы быту прымаліся практычныя меры па забеспячэнню работы атэлье, цэхаў, участкаў і іншых структурных падраздзяленняў, насычэнню спажывецкага рынку таварамі і паслугамі. Вялікая дапамога аказана прадпрыемствам бытавога абслугоўвання і з боку выканкомаў абласнога, раённых і гарадскіх Саветаў дэпутатаў, пастаяннай камісіі па таварах і паслугах абласнога Савета. Эканомія сродкаў ад прадастаўлення льгот па падаткаабкладанню склала звыш 276,7 млн.рублёў. На пагашэнне затрат па ўтрыманню сельскай службы быту і развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы з абласнога бюджэту выдзелена датацыя ў суме 108,3 млн.рублёў, а з мясцовых бюджэтаў — 66,4 млн.рублёў.

Рэалізуючы Асноўныя напрамкі па стабілізацыі дзейнасці службы быту /рашэнне аблвыканкома ад 26.10.92 г. № 77/, у 1993 годзе на прадпрыемствах адкрылі 30 камерцыйных магазінаў, арганізавалі 11 цэхаў масавага пашыву. Адкрыты ювелірная майстэрня ў Слуцку, цэх па выпуску трыкатажных вырабаў у г.Мар'іна Горка, участак па рамонту мэблі ў Стаўбцоўскім раёне. На базе нізкарэнтабельных і стратных вытворчасцей створана каля 100 малых прадпрыемстваў з захаваннем комплексу паслуг. Завяршаецца работа па пераводу рабочых, якія займаюцца рамонтам гадзіннікаў, абутку, цырульнікаў на індывідуальную працоўную дзейнасць.

Станоўчы ўплыў для падтрымання стабільнай работы прадпрыемстваў зрабіў і створаны пры ўпраўленні цэнтралізаваны фонд, з якога выплачана прадпрыемствам больш як 43 млн.рублёў у выглядзе зваротнай і бязвыплатнай фінансавай дапамогі.

Аператыўна вырашаліся ўпраўленнем і пытанні матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і тэхнічнага пераўзбраення прадпрыемстваў. Наладжаны пастаянныя сувязі з фірмай "Мадаг" /Швейцарыя/ па пастаўцы вязальных машын тыпу "Пасап", заключаны кантракты з замежнымі фірмамі на пастаўку машын кецельных, абкідальных і ланцуговага шыўка. У выніку ў цэлым па прадпрыемствах і арганізацыях атрымана звыш 1,9 млрд.рублёў прыбытку. Насельніцтву вобласці аказана бытавых паслуг на суму больш як 7,2 млрд.рублёў. Разам з тым прынятых мер аказалася недастаткова, каб прыпыніць спад і скараціць затраты вытворчасці. За 1993 год аб"ём бытавых паслуг знізіўся на 40,3%. Працягвае скарачацца сетка прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання, асабліва ў сельскай мясцовасці.

Выканком абласнога Савета дэпутатаў адзначыў недастатковую работу ўпраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва аблвыканкома /У.А.Крыловіч/ па рэалізацыі неадкладных мер для прадухілення спаду аб"ёмаў бытавых паслуг і стварэнню ўмоў для паляпшэння работы службы быту.

Асноўнымі задачамі ў рабоце аблбытупраўлення вырашана лічыць захаванне працоўных калектываў і сеткі падраздзяленняў службы быту, асабліва ў сельскай мясцовасці, недапушчэнне спаду вытворчасці, павышэнне рэнтабельнасці паслуг і на гэтай аснове паляпшэнне матэрыяльнага становішча работнікаў, вырашэнне пытанняў па больш поўнаму задавальненню попыту насельніцтва ў паслугах.

## ВЫРАСЛА "СЕКВОЯ"

Больш за год на базе Старадарожскай МПМК-232 працуе сумеснае беларуска-італьянскае прадпрыемства "Секвоя". Яно выпускае розныя мадыфікацыі домікаў для садовага інвентару.

Для работы быў дабудаваны цэх плошчай 700 квадратных метраў, які фірма "Істэрн компані" /г.Брэшыа/ "начыніла" высокапрадукцыйным дрэваапрацоўчым абсталяваннем. Атрымаць домік можа кожны жадаючы. І гэта нягледзячы на тое, што асноўная іх колькасць адпраўляецца за мяжу.

**На здымках:** домік для садовага інвентару; начальнік МПМК-232 **Я.Д.Кандаураў** /другі справа/ гутарыць са сталярамі-зборшчыкамі **В.У.Субцэльным, С.Л.Дзмітруком і С.А.Кухтам;** агульны выгляд цэха.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ 15 мая — Міжнародны дзень сям'і

## З чаго пачынаецца шчасце?

**Сёння мы перакананы: здаровая і шчаслівая сям'я — не проста ячэйка грамадства, а самая важная велічыня, яго складальнік. Зыходзячы з гэтага вываду, Генеральная Асамблея ААН прыняла рашэнне: пачынаючы з 1994 года адзначаць 15 мая як Міжнародны дзень сям'і.**

Савет Міністраў Беларусі таксама прыняў пастанову, у якой выканкомам мясцовых Саветаў, міністэрствам і ведамствам, прадпрыемствам, установам і арганізацыям рэкамендуецца штогод праводзіць 15 мая мерапрыемствы, прысвечаныя Міжнароднаму дню сям'і. Гэта могуць быць масавыя гулянні, спартыўныя спаборніцтвы з актыўным удзелам сем'яў, сустрэчы кіраўнікоў краіны, дэпутатаў з мнагадзетнымі і няпоўнымі сем'ямі, якія выхоўваюць дзяцей-інвалідаў, аказанне ім матэрыяльнай дапамогі.

Аб тым, што праводзіцца ў рэспубліцы ў рамках Міжнароднага дня сям'і, расказвае начальнік упраўлення па справах сацыяльна-культурнага комплексу Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Пётр Кішкурна.

— У адной са сваіх рэзалюцый Генеральная Асамблея ААН абвясціла 1994 год Міжнародным годам сям'і пад дэвізам: "Сям'я: рэсурсы і адказнасць у зменлівым свеце". Падтрымліваючы гэтую ініцыятыву, урад рэспублікі стварыў у студзені 1992 года аргкамітэт для каардынацыі работы па падрыхтоўцы і правядзенню асноўных мерапрыемстваў у сувязі з Міжнародным годам сям'і. Аналагічныя камітэты створаны ў кожнай вобласці і горадзе Мінску.

Адгукнуліся на заклік урада многія міністэрствы і ведамствы, грамадскія арганізацыі. Так, Міністэрства культуры і друку запланавала ажыццявіць выпуск 54 выданняў па праблемах сям'і. Пералікі ўжо выдадзеных накіраваны зацікаўленым арганізацыям. Праводзяцца прэзентацыі лепшых кніг, прысвечаных гэтай праблематыцы. Названае міністэрства многае робіць, каб зарыентаваць работу ўстаноў культуры і мастацтва на падтрымку сямейнай мастацкай творчасці, садзейнічаць развіццю рухаў "Дамашні тэатр", "Сямейны калектыў", "Радавод сям'і", правядзенню конкурсаў "Лепшая мастацкая сям'я года", "Сям'я і творчасць", фестываляў "Таленты нашай сям'і", святаў двароў і мікрараёнаў.

Не адстаюць ад сваіх калег і ў Міністэрстве адукацыі. Напрыклад, сумесна з лабараторыяй сацыялагічных даследаванняў пры Белдзяржуніверсітэце створаны часовы творчы калектыў па распрацоўцы Рэспубліканскай праграмы падрыхтоўкі моладзі да шлюбу з улікам нацыянальных і культурных традыцый, плануюцца навуковыя даследаванні па тэмах: "Шляхі і формы аказання псіхолага-педагагічнай дапамогі сучаснай сям'і", "Праблемы ўзаемаадносін бацькоў і прыёмных дзяцей".

Робяцца крокі, каб заканадаўча замацаваць інтарэсы сям'і. Міністэрства юстыцыі падрыхтавала першы варыянт праекта новага Кодэкса аб шлюбе і сям'і Рэспублікі Беларусь, які цяпер узгадняецца з зацікаўленымі міністэрствамі і ведамствамі. Дзяржкампрацы прыняў актыўны ўдзел у распрацоўцы сучасных заканадаўчых норм, якія рэгулююць дзяржаўныя гарантыі і льготы працоўным з сямейнымі абавязкамі.

Міністэрства аховы здароўя з улікам рэгіянальных дэмаграфічных асаблівасцей распрацоўвае праграму планавання сям'і. А Дзяржкамстат выпусціў спецыяльны статыстычны зборнік пад агульнай назвай "Жанчыны, сям'я і дзеці Рэспублікі Беларусь".

Важкі ўклад у правядзенне Міжнароднага года сям'і ўносяць грамадскія арганізацыі. Вялікі красавіцкі сямейны сход "Бацькі і дзеці" правёў у Мінскім цырку Беларускі дзіцячы фонд. Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі мае намер правесці восенню міжнародную сустрэчу, для ўдзелу ў якой у Мінск запрошаны прадстаўнікі амерыканскай арганізацыі "Фрэндшып Форс", жаночага руху Расійскай Федэрацыі і ФРГ, таварыстваў дружбы Італіі, Польшчы.

Сацыяльная ж абарона сям'і адлюстравана ва ўрадавай пастанове "Аб мерапрыемствах у сувязі з правядзеннем Міжнароднага года сям'і". Акрамя канкрэтных даручэнняў міністэрствам і ведамствам, у ёй выканкомам мясцовых Саветаў дэпутатаў, прадпрыемствам, установам і арганізацыям прапануецца наведаць мнагадзетныя і няпоўныя сем'і, сем'і, якія выхоўваюць дзяцей-інвалідаў, для вывучэння ўмоў іх жыцця і адшукання магчымасці аказання ім матэрыяльнай дапамогі.

Распрацоўваецца шэраг дадатковых мер па паляпшэнню ўмоў працы, арганізацыі адпачынку і ажыццяўленню працоўнай дзейнасці бацькоў з дзецьмі.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ХРОНІКА ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАМПАНІІ

Пры самым неспрыяльным зыходзе прэзідэнцкай кампаніі выбарная гонка можа працягвацца бясконца. Справа ў тым, што ні Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, ні Законам аб выбарах Прэзідэнта не прадугледжаны іншыя сцэнарыі развіцця падзей, акрамя як: выбары—другі тур галасавання—паўторныя выбары.

Як растлумачылі карэспандэнту Белінфарма ў Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, паўторныя выбары могуць праводзіцца па поўнай праграме, з выключэннем кандыдатаў, зборам подпісаў да таго часу, пакуль хто-небудзь не зойме вакантнае месца. Сумы, затрачваемыя на фінансаванне кожнага этапа гэтага марафону, немалыя. Паводле сцвярджэння некаторых эканамістаў, іх дастаткова для будаўніцтва невялікага раённага цэнтра. Праўда, Цэнтральная камісія апасаецца не столькі няяўкі на выбары, колькі палярных палітычных сімпатый у грамадстве.

* * *

Прэтэндэнт у кандыдаты на пасаду Прэзідэнта Генадзь Карпенка перадаў у сродкі масавай інфармацыі заяву. Паколькі ў дакуменце, перададзеным Славянскім саборам "Белая Русь" тэлебачанню, сцвярджалася, што Генадзь Карпенка нядаўна ездзіў у Брусель, у штаб-кватэру НАТО, ён удакладніў, што на самай справе выязджаў нядаўна за мяжу. Але не ў Брусель, а ў Маскву і сустракаўся не з генераламі НАТО, а з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Маскве.

* * *

У Магілёве могуць збіраць подпісы ў падтрымку Зянона Пазняка і Генадзя Карпенкі ўсе хто жадае. Пераканацца ў чым было проста. Гэтымі днямі гарадская газета "Вестник Могилева" апублікавала наступную аб"яву: "Пазняк—Карпенка: збор подпісаў — патрэбна дапамога!" Далей былі ўказаны два тэлефоны, па якіх і прасілі звяртацца. Калі адказны работнік аблвыканкома пазваніў і спытаў, аб якой дапамозе ідзе размова, яму адказалі: "Прыходзьце, самі падпішацеся. Можам вам уручыць падпісныя лісты — і збірайце подпісы іншых прыхільнікаў". У адказ на пярэчанне, што збіраць подпісы маюць права толькі члены ініцыятыўнай групы, на другім канцы праваду паклалі трубку.

Як высветлілася, тэлефоны з такімі нумарамі належаць магілёўскай арганізацыі БНФ і яе газеце "Ратуша". Мясцовыя дэмакраты яўна перастараліся, імкнучыся дагадзіць сваім лідэрам. Правамернасцю збору подпісаў на іх карысць такім метадам цяпер займаецца гарадская камісія па выбарах Прэзідэнта Беларусі.

*БЕЛІНФАРМ.*

## Увага! "Прамая лінія"

Учора маёмасць была дзяржаўная, а сёння пераходзіць у прыватныя рукі. Многія называюць гэта разбазарваннем народнага багацця. Ці так яно на самай справе?

З 1 красавіка пачалася выдача чэкаў "Маёмасць". Што з імі рабіць, куды іх укласці?

Нямала пытанняў выклікае ў вас, дарагія чытачы, рэфармаванне нашай эканомікі. Разабрацца ў іх вам дапаможа начальнік Мінскага абласнога ўпраўлення па раздзяржаўленню і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці **Фёдар Анікеевіч МУРАЎЁЎ.** Рэдакцыя **17 мая** арганізуе з ім "прамую лінію". Званіце па тэлефонах **68-25-57** і **32-50-01** з 10 да 13 гадзін.

Можаце задаць яму пытанні і да 17 мая, пазваніўшы на працягу дня па тэлефонах **68-25-43, 24-35-91, 24-88-28**, ці напісаць у рэдакцыю па адрасу:

**220013, г. Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 10-А, рэдакцыя газеты "Мінская праўда", сацыяльна-эканамічны аддзел.**



## Крымінал-тэлетайп

### ЗВЯРЭЕМ?

У Салігорску ў кватэру пенсіянера пазваніў яго знаёмы і з парога запатрабаваў вярнуць доўг — 470 тысяч рублёў. Пачуўшы адмову, выхапіў нож і ўдарыў небараку ў сэрца. Пенсіянер памёр.

А вось у Клецкую раённую бальніцу была дастаўлена жанчына з калгаса імя Чкалава. У час спрэчкі раненне ёй нанёс муж, які затрыманы.

### ДА ЧАГО ЯШЧЭ ДОЙДЗЕМ

Дзікунская гісторыя адбылася ў Дзяржынску. У міліцыю звярнулася жанчына з заявай, што яе дачку, якой толькі чатыры гады, згвалтавалі. Супрацоўнікі органаў унутраных спраў выйшлі на след гвалтаўніка. Ім аказаўся вучань чацвёртага класа.

У Мінскім раёне непадалёку ад станцыі Радашковічы двое невядомых згвалтавалі студэнтку тэхнікума. А затым прыхапілі з сабой яе скураную куртку, залатыя завушніцы і 500 тысяч рублёў.

### ЧОРТ ПАДБІЎ

Невядомыя наведаліся ў дом ксяндза. Расправа была кароткая. Яны ўдарылі яго паленам па галаве, а затым забралі 100 тысяч беларускіх рублёў, 50 тысяч польскіх злотых, некалькі пар шкарпэтак. Свяшчэннаслужыцель змешчаны ў бальніцу.

### НАЧНЫЯ ВІЗІЦЁРЫ

Прадпрымальнік з Львова спыніў ноччу машыну на аўтамагістралі Масква—Брэст непадалёку ад вёскі Заручча. Прычына — тэхнічныя непаладкі. Раптам з цемры вынырнулі трое невядомых. Пагражаючы пісталетам, яны забралі ў вадзіцеля 300 долараў.

А ў Барысаве каля поўначы на вуліцы Панфілава прахожага спынілі двое. Разборка была кароткая: яго збілі, забралі сумку з прадуктамі. Устаноўлена, што рабаўніцтва ўчынілі мясцовыя жыхары, нідзе не працуючыя. Яны затрыманы.

***У вобласці з 3 па 10 мая ўчынены 132 злачынствы. З іх — 3 забойствы, 7 цяжкіх цялесных пашкоджанняў, 3 згвалтаванні, 36 крадзяжоў дзяржаўнай і 65 — асабістай маёмасці. Адбылося 28 дарожна-транспартных здарэнняў. 10 чалавек загінулі, 29 — паранены. Пажараў — 31. 2 чалавекі загінулі ў агні.***

*Ірына АНДРЭЕВА.*

## ПРАПІВАЛІ НЕ ДА НІТКІ

Павышэнне цаны на паслугі медвыцвярэзнікаў з 1 красавіка да 60 тысяч рублёў не толькі не працвярэзіла галовы пітушчых случчан, а нават дало нейкі штуршок росту злоўжыванняў спіртным сярод моладзі і нават жанчын. Калі ў першым квартале г.г. сярэднядзённая колькасць наведвальнікаў медвыцвярэзніка склала 6,4 чалавека, то толькі за 12 дзён красавіка тут пабывалі 86 п"яніц, або 7 у сярэднім за дзень. Як ні дзіўна, большасць іх трапляе ў гэтую ўстанову з тугім кашальком у кішэні. Так, з 10 чалавек, падабраных спецмашынай на вуліцах Слуцка 12 красавіка, пяцёра разлічыліся за паслугі выцвярэзніка поўнасцю, чацвёра — часткова і толькі адзін не меў пры сабе ніводнага "зайчыка".

*Міхась ТЫЧЫНА.*

## А сам — 666-ы

Эпоха ваяўнічага атэізму, трэба думаць, беспаваротна адышла ў гісторыю. Аднак не ўсе людзі кінуліся да Бога. Ёсць тыя, хто «запісаў» сябе ў секту Сатаны. Адзін з такіх сатаністаў аб'явіўся нядаўна ў Прыбалтыцы. На яго сумленні некалькі ахвяр. Калі злачынцу затрымалі, ён заявіў работнікам праваахоўных органаў, што меў намер забіць 665 чалавек. 666-м павінен быў стаць сам.

Як вядома па Біблії, 666 — гэта лічба апакаліптычнага звера.

*Мікалай ЖУЧКО.*

# ВЯСНА ПАТРЫЯРХА

*— Вясна сёлета выдалася такая, што зімовую шапку, можа, і да лета не скінеш, — жартуе К.І.Шаплыка. — Яравыя, вунь, як скрозь смалу прабіваюцца. Няма цяпла. Амаль за 50 гадоў старшынёўства цяжка прыпомніць такія скупыя на сонца вясновыя дні.*

*Так, напрыканцы гэтага года знакаміты Кузьма Іванавіч Шаплыка, старшыня знакамітага калгаса «Чырвоная змена» Любанскага раёна, адзначыць юбілей, варты самай глыбокай павагі і шчырай удзячнасці. Паўвека назад ён, мужны партызан, абаронца Айчыны, стаў на чале разбуранай, разрабаванай захопнікамі гаспадаркі. Колькі давялося перажыць за гэты час — толькі аднаму яму вядома. Побач з баявымі ўзнагародамі заіскрыліся ўзнагароды за стваральную працу ў імя простых людзей. А вянчае іх вышэйшае званне — Герой Сацыялістычнай Працы.*

*Не думаў старшыня, што выпрабаванні выпадуць на яго долю цяпер не менш жорсткія, чым у далёкім 1944-м. Але ён трымаецца, сцяўшы зубы робіць сваю адвечную хлебаробскую справу. Галоўнае — яму вераць людзі, ён заўжды сярод людзей, ім Кузьма Іванавіч прысвяціў сваё нялёгкае жыццё, аддае ўсяго сябе.*

*Сярод мноства сустрэч і незабыўных эпізодаў для К.І.Шаплыкі асабліва памятны жнівень 1979 года. Чарговы раз наведаўся тады ў гаспадарку П.М.Машэраў. Лілі дажджы. На палі нельга было ўбіцца камбайну. Ратаваць збажыну выйшлі жанчыны з сярпамі. Вось да іх, на асушаны тарфянік, і завітаў Пётр Міронавіч. Стаялі на тым полі тры маладыя дубкі. Каля іх і адбылася тая памятная сустрэча. Гаварыў Пётр Міронавіч шчыра пра цяжкасці, пра сялянскую працу, пра тое, што робіцца, каб людзям жылося лепш. Дужа спадабалася, глыбока ўрэзалася ў памяць вясковым кабетам задушэўнасць, даступнасць, прастата Машэрава. І калі гады тры назад нехта з трактарыстаў вывернуў адзін з дубкоў, каб не перашкаджаў разварочвацца агрэгату, жанчыны кінуліся ў поле: «Не чапайце! Хай растуць як жывая памяць пра Машэрава. Ён быў тут, яны памятаюць постаць яго, голас яго...»*

*Вось і стаяць моцна, учэпіста тыя дубкі. Як сімвал вечнасці і неадольнасці зямлі нашай, якую так любіў, шанаваў Пётр Міронавіч, якой верна служыць адданы сын яе — Кузьма Іванавіч Шаплыка.*

Фота Анатоля БАСАВА.



■ Милосердие

# ЧТОБ СТАРОСТЬ НЕ В ТЯГОСТЬ БЫЛА

По-разному складывается у людей судьба. Хорошо, если старость скрашивают любовь и забота детей, внуков. Но не всегда так бывает. Увы, ведь немало и таких, кто в пору поздней осени вступает совершенно одиноким. И одиноких стариков с годами будет больше. Такова демографическая тенденция.

Словом, общество наше стареет. Достаточно сказать, что только в Минской области 25 процентов населения — пенсионеры. А это означает, что на 100 работающих приходится 48 пенсионеров. Мы глубоко озабочены их судьбой. Настойчиво ищем новые и совершенствуем уже известные нам формы опеки над одинокими престарелыми гражданами.

В обозримой перспективе люди станут свои преклонные годы проводить в домах-интернатах. Заглядывая в будущее, не следует, однако, отрываться от сегодняшнего дня. А действительность такова: бытовые условия в домах-интернатах оставляют желать лучшего, ощущается нехватка подобных учреждений.

В области сегодня насчитывается более 30 тысяч одиноких и престарелых. Многие из них нуждаются в посторонней помощи. В настоящее время в четырнадцати домах-интернатах проживают 3.300 человек, в том числе 410 детей-инвалидов. Много сил и энергии вкладывают коллективы домов-интернатов в обустройство жилых помещений, создавая для своих подопечных домашний уют.

Взять, к примеру, Иловский, Свирский, Копыльский, Слуцкий дома-интернаты, где люди жили в приспособленных помещениях. И для того, чтобы создать хотя бы более-менее нормальные бытовые условия, многое было сделано их директорами М.Войнилко, М.Дядело, Т.Дидур.

В последнее десятилетие произведено коммунальное обустройство Молодечненского дома-интерната, построен медицинский корпус в Червенском детском доме-интернате. В настоящее время изготовлена проектная документация на строительство нового благоустроенного корпуса этого дома. При выделении средств начнутся строительные работы.

Построен новый корпус, произведено коммунальное обустройство Слуцкого дома-интерната.

Введены в строй построенные по современным проектам Пуховичский дом-интернат для психоневрологических больных на 370 мест и Ивенецкий дом-интернат для детей с физическими недостатками на 144 места. Здесь для детей-инвалидов создана хорошая лечебно-оздоровительная база, оборудованы тренажерный зал, кабинет лечебной физкультуры, физиотерапевтические кабинеты, бассейн, водолечебница. Информацию о жизни дома-интерната ребята могут получить из радиотелевизионного технического центра, в котором работает телестудия "Орленок".

Вот уже двадцать четыре года неутомимо ищет и внедряет новое и передовое в дело обучения и реабилитации больных детей Ф.Л.Гольдшмидт — нынешний директор Ивенецкого дома-интерната.

И тем не менее, условия проживания людей пока не отвечают санитарным и эстетическим нормам. Дома-интернаты в большинстве своем перенаселены. Многие жильцы проживают в приспособленных помещениях, 17 процентов из них лишены коммунальных удобств.

На очереди в дома-интернаты психоневрологического профиля — более 200 человек.

Решению этих серьезных проблем поможет введение в строй Столбцовского дома-интерната на 480 мест. Однако, в условиях нынешней экономической ситуации, его строительство находится под угрозой срыва. Начато строительство Иловского дома-интерната. Изготовлена проектная документация Свирского дома-интерната в Мядельском районе.

Заканчивается строительство специального дома-интерната на 50 мест для нетрудоспособных лиц, освобожденных из мест лишения свободы, в Копыльском районе.

Однако дома-интернаты не являются единственной и универсальной формой оказания помощи одиноким старикам. Ведь некоторые пожилые люди не хотят отрываться от домашней обстановки.

Поэтому в 1986 году в Несвижском и Молодечненском районах, а также в самом Молодечно были открыты отделения социальной помощи одиноким нетрудоспособным гражданам — одни из первых в республике, в порядке эксперимента. Сегодня эта служба прочно вошла в систему социального обеспечения. Сейчас на Минщине действует 28 отделений, в штате которых 1.300 человек. Они обслуживают 12 тысяч одиноких стариков. Но число одиноких престарелых людей, требующих ухода, увеличивается. Штатным сотрудникам одним не управиться. Значит, надо воспитывать в людях милосердие, сострадание к ближнему. Поэтому мы всячески пытаемся поддержать, в том числе и материально, тех, кто, живя по соседству, ухаживает за одинокими стариками. Таких помощников по области — 622 человека. Их у нас еще называют опекунами.

Скажу откровенно: непростая задача стояла перед нами и при подборе социальных работников, заведующих отделениями для службы надомного обслуживания. В основном люди подобрались отзывчивые, заботливые, хорошие организаторы. В их числе можно назвать Анну Витольдовну Казарину, Светлану Александровну Савчанчик, Наталию Степановну Тарабеш из Несвижского района. Большим уважением и признательностью среди своих подопечных пользуется Ева Николаевна Лазовская из Любанского района. Велик среди случчан авторитет социальной работницы Лидии Андреевны Садиной.

За счет средств районного бюджета, пожертвований колхозов, совхозов, церкви, при участии общества Красного Креста на базе Куренецкой участковой больницы, что в Вилейском районе, был открыт районный Дом ветеранов на 25 мест. Там оборудованы двухместные уютные комнаты, столовая, созданы все условия для полноценного отдыха и лечения. Имеется подсобное сельское хозяйство.

А взять колхоз "Яхимовщина" Молодечненского района, который возглавляет Геннадий Иванович Божко. Не на словах, а на деле здесь проявляют заботу о своих ветеранах. За счет средств хозяйства содержится дом-интернат, где в одноместных комнатах проживают восемь человек. При желании они могут трудиться, каждому выделен земельный участок, оборудованы подвалы для хранения выращенных овощей.

Все больше входит в практику проведение различных благотворительных мероприятий с перечислением средств в Фонд милосердия. В 1993 году поступило 83 млн. рублей.

Старость — такой же равноправный этап жизни, как молодость и зрелость, но только еще более сложный, требующий больше заботы и внимания. В наших общих интересах сделать все, чтобы жизнь пожилых сограждан протекала в покое и мире.

*Сергей Бурло,*
*заведующий отделом социального обеспечения Минского облисполкома.*

■ В партиях и движениях

# СМЫЧКА С «ОППОЗИЦИЕЙ»

**Состоялось заседание Координационного комитета Народного движения Беларуси. Было принято заявление.**

В нем говорится, что в ходе начавшейся избирательной кампании народный депутат Республики Беларусь А.Лукашенко в средствах массовой информации негативно высказывается в отношении подписания соглашения об объединении денежных систем России и Беларуси, что вызывает определенную тревогу и озабоченность у НДБ.

Удивительно и то, что его длительное время считали последовательным сторонником интеграции не только с Россией, но и другими государствами СНГ. Эта позиция, которую он занимал и на I Конгрессе народа Беларуси, получила одобрение во всех общественных объединениях, входящих в НДБ. А.Лукашенко поддержали и в самый тяжелый период его деятельности, когда он возглавлял парламентскую комиссию по борьбе с коррупцией.

Возникает закономерный вопрос: что скрывается за изменением позиции А.Лукашенко? Если его метаморфозы продиктованы конъюнктурными условиями президентской гонки, то тем самым он фактически смыкается со своими вчерашними политическими противниками из так называемой "оппозиции" — З.Позняком и С.Шушкевичем.

Какова же позиция НДБ? Краеугольным камнем своей программы движение считает интеграцию с Россией и потому решительно отмежевывается от тех политиков, которые выступают против этой идеи.

Исходя из этого, партии, движения и организации, входящие в НДБ, на предстоящих президентских выборах поддержат только того кандидата, который однозначно выступает за политическую и экономическую интеграцию с Россией и другими республиками СНГ.

*/НАШ КОРР./.*

# АД ЯКАСНАГА ПІВА — ДА ЎСЕАГУЛЬНАГА РОСКВІТУ

***Такая праграма ў прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду ад Партыі аматараў піва***

Было прыемна даведацца, што адзін з тых, хто замахваецца на пасаду кіраўніка Беларусі, жыве ў Салігорску. Гэта выкладчык матэматыкі А.М.Кальцоў. Ён перамог у конкурсным адборы, які аб"явіла Партыя аматараў піва.

Асновай перадвыбарнай праграмы кандыдата ў прэзідэнты стаў лозунг: "Праз стабільнасць і парадак — да ўсеагульнага росквіту". Мы сустрэліся з Аляксандрам Мікалаевічам, калі ён літаральна на некалькі гадзін завітаў да сям"і з Мінска, дзе вядзе перадвыбарную работу.

— Хачу адразу ўнесці яснасць — я не член Партыі аматараў піва, — папярэдзіў М.А.Кальцоў. — Прачытаў, што яна аб"явіла конкурсны адбор кандыдата ў прэзідэнты. Уключыўся ў яго. Перамог. І цяпер працую разам з актывістамі партыі.

— Колькі ў яе членаў?

— Тры сотні. Але няхай нікога не здзіўляе гэтая лічба, бо ПАП ростам сваіх радоў практычна яшчэ зусім не займалася. Яна фактычна толькі нараджаецца.

— Асабіста вы думаеце стаць членам гэтай партыі?

— Магчыма. Бо падзяляю яе праграму, мэты. Безумоўна, бліжэйшая задача ПАП — забяспечыць людзей высакаякасным півам і ў дастатковай колькасці, павысіць узровень культуры яго спажывання, — падтрымліваецца многімі беларусамі, бо падбадзёрваючы, пажыўны напітак любяць мільёны. Але гэта — задача-мінімум. Высакаякаснага піва, як вядома, у эканамічна адсталай краіне быць не можа. Таму ПАП выступае за шэраг радыкальных мер, якія павінны павысіць у цэлым жыццёвы ўзровень насельніцтва рэспублікі.

Больш падрабязна аб праграме партыі Аляксандр Мікалаевіч расказваць не захацеў, заявіўшы, што пакуль яна дапрацоўваецца. І калі набярэцца дастатковая колькасць галасоў для рэгістрацыі свайго кандыдата, яны абнародуюць праграму. Сказаў толькі, што ПАП — партыя ліберальнага кірунку, змагаецца за лібералізм у грамадстве, за тое, каб інтарэсы чалавека ставіліся вышэй за дзяржаўныя.

Сам Аляксандр Мікалаевіч выступае за разумнае спалучэнне прыватнай і дзяржаўнай уласнасці. Адмоўна ставіцца да адзінай рублёвай зоны. Лічыць, што нам трэба было б увесці сваю валюту і праз яе аб"ядноўвацца з іншымі. Упэўнены: многія бар"еры на шляху нашай эканомікі створаны кімсьці спецыяльна... Сам ён рускі. Трыццаць гадоў жыве ў Салігорску, куды бацька пераехаў з Пермі вучыць беларускіх шахцёраў бура-ўзрыўной справе. Але перакананы, што ў Беларусі павінна быць адна дзяржаўная мова — беларуская. Іншая справа, што нельга ўкараняць яе сілком, па загаду, у такім выпадку атрымліваецца адваротны эфект. Вывучаць беларускую мову трэба з дзіцячага сада, першых класаў...

— Уявім сабе, што вы зарэгістраваны кандыдатам у прэзідэнты Беларусі. Думаеце, хопіць сіл, вопыту, каб перамагчы такіх "кітоў" у палітыцы, як Кебіч, Шушкевіч, Лукашэнка?

— Пажывём — пабачым, — ухіляецца ад адказу А.М.Кальцоў.

— Піва любіце?

На гэтае пытанне Аляксандр Мікалаевіч адказаў канкрэтна:

— Вядома. Калі яно якаснае, свежае...

Асабіста мне з цяжкасцю верыцца ў поспех прадстаўніка ПАП на прэзідэнцкіх выбарах. Але тое, што і яна можа ўдзельнічаць у іх нароўні з іншымі партыямі, радуе. Менавіта так павінна быць ва ўмовах сапраўднай дэмакратыі. А людзі няхай глядзяць, робяць высновы і выбар...

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

■ Вяртаючыся да надрукаванага

# "ВАГОННЫЯ ПАТРАШЫЦЕЛІ"

**Пад такой назвай у №132 за мінулы год быў апублікаваны матэрыял У.Мацэля і М.Жучко. У ім ішла размова аб дзейнасці дзвюх злачынных груп, агульнай колькасцю 26 чалавек, на станцыі Мінск-Сартавальны. Імі было ўчынена амаль 150 крадзяжоў дзяржаўнай маёмасці з рухомага саставу на суму некалькі мільёнаў рублёў.**

**Нядаўна гэтая справа была разгледжана Мінскім гарадскім судом. Вынесены прыгаворы. Так, М.Чэрнеў атрымаў дзесяць гадоў пазбаўлення волі, М.Сізоў, Г.Моніч, Э.Валадзько, С.Мілеўскі — восем, У.Сяргей — сем. С.Зяньковіч, І.Мажуль — шэсць. Л.Івашын, У.Быль, С.Лук'янаў, А.Ціханаў і В.Куляшоў былі асуджаны на пяць гадоў пазбаўлення волі.**

**Астатнія ўдзельнікі злачынных груп атрымалі розныя тэрміны, якія будуць адбываць на будоўлях народнай гаспадаркі. Ва ўсіх канфіскавана маёмасць.**

Из анналов истории

# ТАЙНА "золотой кареты"

Случилось это прекрасным июльским вечером 63-го. Солнце уже начинало клониться к закату. Николай Александрович Наумовец ловил рыбу в почти пересохшей в то лето речушке Лошица (протекающей через деревню Лошница), в районе старого-престарого моста, от которого остались одни сваи. И вдруг взгляд его упал на предмет, торчавший из илистой почвы под самым берегом обмелевшей речки и по внешнему виду напоминавший еловую шишку. При ближайшем рассмотрении то, что Наумовец Н.А. принял за "чешую" шишки, оказалось бронзовой чешуей — перьями великолепного позолоченного орла-наконечника. Из основания которого торчал полусгнивший кусок древка знамени...

10 декабря того же года Николай Александрович отвез орла в г. Борисов и сдал в краеведческий музей. Бронзовую птицу приняла у Наумовца Н.А., оформив передачу соответствующим актом, младший научный сотрудник Малкова. При сем событии присутствовал также и бывший директор музея, ныне покойный И.К.Глушанин. Похоже, что никакой сенсацией эта находка в те далекие времена не явилась. Во всяком случае, орел преспокойно пролежал в фондах нашего музея (точнее, в экспозиции) целых 30 лет — до января нынешнего года, пока на него не обратил внимание директор Центра памяти Наполеона Фердинанд Бокур. С июня 1993-го по январь 1994-го он приезжал к нам в музей уже трижды (с целью воплотить в жизнь план по установке памятника Великой армии в том месте, где она перешла Березину).

Кстати говоря, интерес месье Бокура к той далекой находке невольно пробудил именно я, оговорившись в личной беседе, что орел-де найден в реке Березине. Увы, я сам еще не знал, что это не совсем, вернее — совсем не так. Знать бы тогда, на какие мысли натолкнет меня более близкое знакомство с историей находки...

Вскоре после отъезда во Францию месье Бокур прислал мне письмо, из которого я понял, что его интересует: во-первых, где был найден орел, в каком месте реки Березины, и, во-вторых, сохранился ли какой-нибудь цифровой знак, то есть номер полка, которому, как и знамя, принадлежала сия птица?

Уточняя эти детали, я установил, что к Березине орел не имеет никакого отношения. Что касается номера полка, то он тоже не сохранился, хотя на поверхности орла достаточно других знаков и цифр. Обо всем этом было сообщено в письме месье Бокуру. Правда, до сих пор так и не отправленному адресату, так как, каюсь, не смог перевести на французский. Человек же, пообещавший это сделать, забрал письмо и не подает о себе никаких вестей. (Письмо взял человек по фамилии Добровольский, назвавшийся режиссером Белорусского телевидения). Но не это важно. А то, что находка орла именно в реке Лошица натолкнула меня на совершенно невероятные выводы...

Из различных источников, касающихся войны 1812 года и, в частности, отступления Наполеона из Москвы и России, известно, что Борисов был отбит у неприятеля авангардом корпуса адмирала Чичагова П.В. 9 ноября 1812 г. (даты даются по старому стилю). Полностью же город был занят войсками, входящими в состав вышеупомянутого корпуса, только к вечеру 10 ноября. В это время главные силы Наполеона находились в Толочине и Бобре, и 10 ноября французский император еще не знал, что Борисов им уже потерян и западня захлопнулась. Примерно в это же время авангард французской армии, которым командовал маршал Шарль Удино, подходил к д. Лошница, которую и занял ночью 10 ноября без боя — русских войск в ней не было. (Генерал Ланжерон не предпринял никаких мер после занятия г. Борисова к разведке в сторону Бобра). Гренадеры Удино обнаружили в Лошнице небольшую группу раненых и отставших польских солдат из дивизии генерала Домбровского, выбитой из борисовских предместных укреплений. Сам же Домбровский с остатками своей дивизии, по некоторым сведениям, удалился на север, где и соединился позже с корпусом маршала Виктора.

От них-то, поляков, герцог Реджио и узнал, что Борисов еще вчера занят русскими и переправа через Березину захвачена. Удино немедленно снаряжает гонцов на свежих лошадях в главную штаб-квартиру императора Наполеона с дурной для него вестью. Гонцы скачут во весь опор не менее 3-х часов, и в ту же ночь, с 10 на 11 ноября, прибывают на место. Скорее всего, встреча с императором Наполеоном произошла в Толочине или на подступах Бонапарта к нему. Этой же ночью на марше Наполеон пишет приказ маршалу Удино с рассветом выступить к г. Борисову и овладеть им и переправой через реку Березину. Немного отдохнувшие курьеры, сменив лошадей, тотчас отправились обратно, а Наполеон, едва забрезжил рассвет, перешел со своей гвардией (из Толочина) в Бобр, где стал ждать с нетерпением вестей от Удино.

Получив приказ Наполеона, утром 11 ноября после необходимых сборов Удино выступил из Лошницы в направлении Борисова. Примерно в это же время из Борисова по дороге в сторону Лошницы выступил отряд русских воинов под командованием генерала Палена П.П. Оба отряда, русский и французский, встретились около полудня на узкой дороге примерно на полпути от Борисова и Лошницы в районе нынешнего поселка Первомайский.

Что было дальше, любителям отечественной истории известно. Авангард французской армии, превосходивший отряд Палена более чем в три раза, опрокинул русских егерей и рассеял кавалерию. Бой какое-то время еще продолжался в лесу у д. Неманица, но вскоре им пришлось отступить к Борисову. На плечах отступившего противника французские драгуны ворвались в город и заняли его. Адмирал Чичагов со своим штабом едва успел спастись, переправившись по мосту на правый берег Березины. После чего мост был подожжен русскими и сгорел дотла.

Таким образом, маршал Удино поставленной перед собой цели — захватить переправу — не достиг и приказ Наполеона фактически не выполнил. Но плацдарм на левом берегу Березины — город Борисов — все же захватил. Сообщить об этом Наполеону отправились курьеры-нарочные в его штаб-квартиру (в Бобр).

Предполагается, что время, пока шел бой возле Неманицы и под Борисовом 11 ноября (примерно до 14-15 часов пополудни), Наполеон провел в Бобре. И ничего конкретного не предпринимал, так как еще не была известна окончательная ситуация с переправой. "Что делать дальше, если Удино не захватит переправу?" — вот какой вопрос мучил Наполеона весь день. Но слабая надежда все еще теплилась у императора Франции.

И вот к вечеру из Борисова (а смеркается в ноябре очень рано) с письмом от Удино прибыли нарочные. Вести были одновременно и радостные, и печальные: Борисов взят, но переправа уничтожена и контролируется 20-тысячным корпусом Чичагова, т. е. хода через Борисов на запад больше нет. Так что же все-таки делать дальше? Ведь армия оказалась в тупике. Ответа от Наполеона с необходимым решением ждал Удино, ждали гонцы, готовые доставить слово императора герцогу Реджио, ждали маршал и офицеры. Ждала вся Великая армия Наполеона, до сего момента верившая ему безгранично. Я думаю, именно в те минуты Бонапарт ощутил весь груз ответственности за судьбу десятков тысяч людей, которая легла на его плечи. Все, кто знал его, поначалу решили, что он был раздавлен колоссальной тяжестью проблемы, — таким растерянным выглядел Наполеон в первые минуты после сообщения, поступившего от маршала Удино... Император уединился. Потянулись долгие часы его молчания и всеобщей неопределенности.

Решение задачи родилось неожиданно той же ночью. В штаб-квартиру Наполеона, все еще находившуюся в Бобре, прибыл генерал Корбино, бригада которого входила в корпус Удино. Он доложил Наполеону, что им и его кавалеристами обнаружен брод через Березину выше Борисова у деревни Студенка. План созрел в голове Наполеона мгновенно. Бонапарт тут же отправляет Корбино с его кавалеристами обратно с приказом готовиться к переправе через Березину в названном месте, после чего приступить к постройке мостов. Послав в распоряжение Удино всех имевшихся в наличии понтонеров, саперов и генералов Эбле и Шаслу, которые ими командовали.

Уже была глубокая ночь, когда Наполеон закончил отдавать необходимые распоряжения и приказы. Великая армия давно спала, раскинув свои бивуаки на огромном пространстве в несколько десятков километров от Толочина до Бобра, и не было той силы, которая смогла бы ее поднять и заставить действовать. Перебирая в уже плохо соображавшей голове планы и неотложные дела на завтра, 12 ноября 1812 года, Наполеон сформулировал и наконец принял единственно правильное решение... Лишь после этого великий диктатор, наконец, забылся на несколько часов в тяжелом сне.

С рассветом 12 ноября Наполеон со штабом и гвардией выступил из Бобра, оставив на подступах к нему военных жандармов, недавно прибывших в армию, с приказом пропускать на Лошницу только боеспособные части и артиллерию. Безоружный деморализованный сброд, в который давно уже превратилась большая часть некогда грозной Великой армии, пускать дальше Бобра было не велено. Этот приказ касался также обозов и беженцев с их личными вещами, а также фургонов с награбленным в России добром.

*Валерий РАХОВИЧ.*

*(Окончание в следующем номере.)*

